*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 24(409) 16 ЧЭРВЕНЯ 1999 г.

## Віншаванне

**Гарадзенская абласная канферэнцыя Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны сардэчна віншуе Васіля Уладзіміравіча Быкава з семідзесяціпяцігоддзем. Няхай Ваш нязгасны талент свеціць нам доўгія гады. Няхай Вашыя творы і надалей надаюць нам бадзёрасць духу, імпэт і сілы ў змаганні за нашую Бацькаўшчыну. Мы зычым Вам здароўя, творчых поспехаў, а яшчэ хуткага вяртання дамоў, у вольную дэмакратычную Беларусь.**

**Удзельнікі канферэнцыі.**

Пастанова Сакратарыята Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны

## Мы не павінны маўчаць!

Паважаныя сябры Таварыства беларускай мовы, мінула два месяцы з дня правядзення 6-га з'езду ТБМ. Працягваецца рост колькасці суполак, як у сталіцы краіны, так і ў рэгіёнах. Гэта значыць, што нас, грамадзян Беларусі абурае той стан нашай мовы ў якім яна знаходзіцца. Мы ўступілі ў Таварыства, каб дзейнічаць. Цяпер нас, з'яднаных арганізацыяй - больш трох з паловай тысяч. Гэта вялікая сіла.

Але з намі будуць лічыцца толькі тады, калі мы давядзём свае патрабаванні, погляды да грамадзян Беларусі, у першую чаргу да тых, хто зараз прадстаўляе ўладу ў краіне. Кожная арганізацыя ТБМ павінна засведчыць канкрэтнай справай і ўладам, і жыхарам горада ці вёскі, што ёсць дзейсныя людзі, якім неабыякавы лёс беларускай мовы.

У кожным населеным пункце можна бачыць, як імклівa русіфікуюцца беларускія школы, як з вуліц нашых гарадоў і вёсак знікаюць беларускія назвы. Кіраўнікі прадпрыемстваў, як і ў часы былога СССР, пачалі цурацца беларускай мовы. Тых жа, хто ўпарта трымаецца яе, часта зневажаюць на вуліцы, у краме, у дзяржаўнай установе, нават падвяргаюць уціску на працы.

Сакратарыят ТБМ заклікае да **ІНІЦЫЯТЫВЫ і ПРАЦЫ** на карысць беларускай мовы. З гэтай мэтай прапаноўваецца распачаць кампанію патрабавання беларускамоўнай візуальнай прасторы ў нашых гарадах і вёсках.

Для гэтага рэкамендуем:

- Правесці сходы суполак і радаў Таварыства, дзе абмеркаваць стан візуальнага афармлення вуліц вашага населенага пункта (мова указальнікаў, шыльдаў, вывесак на крамах і ўстановах, надпісаў на транспарце, рэкламы і г. д.). Вызначце, хто канкрэтна адказвае за гэта.
- Складзіце ад імя арганізацыі ліст на імя старшыні выканкама, або адпаведнай адказнай асобы, дзе падзяліцеся сваёй заклапочанасцю з нагоды стану беларускай мовы ў вашым населеным пункце. Спытайце іх меркаванне, прапануйце канкрэтныя крокі, а, магчыма, і супрацоўніцтва ў канкрэтных дзеяннях, накіраваных на стварэнне беларускамоўнага асяроддзя.
- Папрасіце аб сустрэчы, на якой можна было б абмеркаваць стан спраў з беларускай мовай.
- Правядзіце пікеты.

**Мы павінны знайсці ва ўладных структурах сваіх саюзнікаў і супрацоўнічаць з імі.**

Абавязкова паведамляйце аб вашых кантактах з прадстаўнікамі ўлады і іншых устаноў Сакратарыяту ТБМ, або дасылайце свае ўражанні аб выніках акцыі ў рэдакцыю газеты «Наша слова». Гэта надзвычай важна: мы павінны ведаць не толькі тых, хто спрыяе развіццю беларускай мовы, але і тых, хто сваімі дзеяннямі, або бяздзейнасцю губіць яе. Нават, калі на ваш зварот вы не атрымаеце адказу - гэта будзе самым красамоўным сведчаннем адносін да беларускай мовы.

Са свайго боку Сакратарыят Таварыства звяртаецца з аналагічнымі пытаннямі да Старшыні Савета Міністраў С. Лінга і старшыні Менскага гарвыканкама Ул. Ярмошына.

10.06.1999 г.

## Зварот

### Таварыства беларускай школы да грамадзян Беларусі

Суайчыннікі!

Падзеі апошніх год: згвалтаванне нацыянальных гістарычных сімвалаў, выцісканне беларускай мовы з дзяржаўнага ўжытку і сродкаў масавай інфармацыі, масавы перавод беларускіх школ на рускую мову навучання, адсутнасць вышэйшых навучальных устаноў на беларускай мове, уціск і праслед нацыянальна-свядомай інтэлігенцыі – і ўсё гэта без колькі-небудзь значнага пратэсту пераважнай часткі народа – паказалі, што беларуская нацыя за некалькі апошніх дзесяцігоддзяў амаль згубіла "рэзістэнтнасць", волю да свабоднага самастойнага жыцця, годнасць.

Інстынкт самазахавання. Адсюль і адсутнасць волі да пратэсту супраць пагаршэння эканамічнай сітуацыі, галечы. Адсюль разгубленасць і неразуменне перад рэальнай пагрозай страты незалежнасці. Усё гэта паставіла і беларускую нацыю, і беларускую дзяржаўнасць перад небяспечнай рысай знікнення.

Таварыства беларускай школы ўсведамляе, што толькі тэрміновы пераход да нацыянальнай сістэмы адукацыі, створанай на аснове беларускамоўнага навучання, выхаванні нацыянальнай годнасці, любові да сваёй Бацькаўшчыны, павагі да свайго народа і яго гісторыі – адзіны шлях да таго, каб са зменай пакаленняў у нашай краіне ўсталявалася не толькі грамадзянская згода сапраўдных патрыётаў Беларусі, але і годны ўзровень жыцця гордых свабодных людзей. Нездарма нацыянальная школа – найпершы дзяржаўны клопат любой незалежнай краіны.

Сёння ў рэспубліцы толькі 30 працэнтаў дзяцей навучаюцца па-беларуску, а ў сталіцы сёлета толькі 4 працэнты першакласнікаў атрымалі беларускі буквар. Любыя спасылкі на выбар народа не могуць падмануць разумнага чалавека – улады стварылі ўсе ўмовы, каб гэты выбар быў на карысць аднаго боку.

У 1921 – 1939 гадах на тэрыторыі Заходняй Беларусі дзейнічала створаная Браніславам Тарашкевічам Таварыства беларускай школы, мэтай якога з'яўлялася захаванне беларускага школьніцтва як галоўнай неабходнай умовы выжывання акупаванай нацыі. Стварэнне ТБШ у 1996 годзе ў незалежнай Беларусі сведчыць аб актуальнасці гэтай задачы ў наш час і аб трывозе значнай часткі беларускай педагагічнай інтэлігенцыі перад пагрозай моўнай асіміляцыі і духоўнага спусташэння моладзі.

Таварыства беларускай школы заклікае ўсіх грамадзян:

—патрабуйце для сваіх дзяцей беларускую мову навучання, аддавайце дзяцей у беларускамоўныя класы;

—стварайце на месцах суполкі ТБШ для больш эфектыўнага адстойвання сваіх канстытуцыйных правоў;

—аб усіх фактах парушэння вашага права на навучанне на роднай мове і любых уціскаў з боку службовых асоб паведамляйце ў канцылярыю ТБШ (220085 г.Менск, праспект Ракасоўскага,93).

Памятайце, што адказнасць прыйдзе да ўсіх.

Адродзім беларускую школу – адродзім Беларусь.

Прынята на II з'ездзе Таварыства беларускай школы.

## Новае кіраўніцтва ТБШ

На чарговай справаздачна-выбарчай асамблеі Таварыства беларускай школы абрана новае кіраўніцтва гэтай рэспубліканскай грамадскай арганізацыі. Прэзідэнтам яе стаў Алесь Лозка, педагог і фалькларыст, дацэнт Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта, аўтар шэрагу дапаможнікаў для навучальных устаноў, віцэ-прэзідэнт – дырэктар СШ № 2 г.Менска Алесь Сядзяка. Абраны выканаўчы орган – Канцылярыя, Наглядальная рада з ліку педагогаў, грамадскіх дзеячоў – Мікола Ермаловіч, вядомы гісторык і літаратар; Леанід Ціханаў, акадэмік, рэктар БДПУ; Аляксей Рагуля, прафесар гэтай установы; Ілля Сучкоў, дацэнт універсітэта культуры, кіраўнік эксперыментальнай праграмы "Этнашкола"; Бярнарда Іванова, кандыдат біялагічных навук, нам. дырэктара Сенніцкай школы Менскага раёна; Анатоль Крупа, дырэктар Бердаўскай СШ Лідскага раёна; Зоя Андрухова, дырэктар СШ № 190 г.Менска; Уладзімір Содаль, літаратар, журналіст. Было вырашана рэгістраваць ТБШ у Міністэрстве юстыцыі.

## *Беларускія СМІ пра беларускую мову*

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

Дарэчы, у Мінску няма ні воднай школьнай установы з беларускай мовай навучання. Цяпер ужо не толькі сталічная СШ № 19 імя Я.Купалы не мае ніводнага роднамоўнага класа (у мінулым яна мела добрыя беларускія традыцыі, але і Вязынкаўская, што працуе на радзіме вялікага песняра, перайшла на рускую мову ці не дзікунства?

**Алесь Лозка**

**Народная воля 29.05.1999 г.**

*Ужо цяпер нашым урадам шмат робіцца дзеля гэтай ганебнай мэты: ідзе вайна з беларускай мовай, гісторыяй, нацыянальнай культурай. А наш народ, звыклы да таго, што за яго нехта іншы вырашае ягоны лёс – цяжка лічыць, што так і павінна быць?*

***Кацярына, 17 год.***

***Народная воля 2.06.99г.***

**3. "Мова нацыі"**

Правядзенне навуковых даследаванняў па гісторыі фармавання і развіцця беларускай мовы.

Падрыхтоўка і выданне атласаў –альбомаў беларускіх гаворак у розныя перыяды развіцця беларускай нацыі.

Завяршэнне факсімільнага выдання першай беларускай газеты "Наша ніва".

**З Праграмы "Беларусь – 2000 гадоў"**

**Народная воля 1.01.99г.**

*Я дамагаўся зберагчы мелодыку беларускай мовы. Калі б давялося кожную драбніцу падаваць па-руску, наш спектакль прайграў бы. Я хацеў, каб абсалютна ўсе музычныя нумары выконваліся на мове Купалы, але нажаль, тэрмін не дазволіў ажыццявіць задуманае цалкам. Увесь спектакль быў сабраны за дзесяць дзён. Па беларуску омскія артысты выконваюць фіналы першага і другога актаў, а салісты намагаліся падаваць ключавыя беларускія словы ды выразы ў такім рускім кантэксце, што публіка нават пачала вучвала рэплікі.*

***Барыс Лагода, мастацкі кіраўнік Тэатра музкамедыі***

***Народная воля 3.06.99г.***

## Ахвяраванні на ТБМ

| | |
|---|---|
| 1. Леакадзія Мілаш, г. Вільня | - 100.000 руб. |
| 2. Бялевіч Марыя, г. Полацк | - 500.000 руб. |
| 3. Бялевіч Леў, г. Полацк | - 500.000 руб. |
| 4. Русецкая З.Л., г. Менск | - 200.000 руб. |
| 5. Гілевіч Ніл Сымонавіч, г. Менск | - 500.000 руб. |
| 6. Яначкін Ігар Іванавіч, г. Менск | - 180.000 руб. |
| 7. Рада ТБМ гістфака БДУ, г. Менск | - 1.400.000 руб. |
| 8. Турук Рыгор Пятровіч, г. Менск | - 300.000 руб. |
| 9. Туміловіч Георгій, г. Менск | - 300.000 руб. |
| 10. Петруковіч Васіль Іванавіч, г. Менск | - 400.000 руб. |
| 1. Пашкевіч У.У., г. Менск | - 100.000 руб. |
| 2. Аксак Валянціна, г. Менск | - 100.000 руб. |
| 3. Чэчат Алесь з ПДПК №1, Менск | - 1.000.000 руб. |
| 1. Астрога Віктар, г. Менск | - 50.000 руб. |
| 2. Ахвяраванні Полацкай гарадской рады ТБМ | - 1.100.000 руб. |
| 3. Рэзнікаў Алесь г. Менск | - 200.000 руб. |
| 4. Сяськова Валянціна | - 500.000 руб. |
| 5. Сяброўскія складкі г. Жыткавічы | - 800.000 руб. |
| 6. Плакса Уладзімір г. Менск | - 800.000 руб. |
| 7. Сяброўскія складкі г. Полацк | - 3.000.000 руб. |
| 8. Буднік І.Ф. г. Гродна | - 795.000 руб. |
| 9. Сяброўскія складкі Партызанская рада г. Менск | - 540.000 руб. |
| 10. Сяброўскія складкі г. Верхнядзінск | - 500.000 руб. |
| 11. Варангуз Валерый Сяргеевіч в. Градаўшчызна | - 1.000.000 руб. |
| 12. Талерчык Тамара г. Гродна | - 500.000 руб. |
| 13. ММУ-2 АСМП "Прамтэхмантаж" г. Менск | - 10.000.000 руб. |
| 14. Манюк Раіса, г. Наваградак | - 500.000 руб. |
| 15. Стома Валеры, г. Наваградак | - 500.000 руб. |
| 16. Цішук Алесь, г. Бярозаўка | - 2.000.000 руб. |
| 17. Прыхільнікі ТБМ, сябры Р.Ф.б.К.Б.О., г. Мельбурн, Аўстралія, праз сп. Акайчыка | - 170 дол. ЗША |

Прыватныя асобы могуць пералічваць свае дабраахвотныя ахвяраванні на дзейнасць ТБМ на наш разліковы рахунак праз любое аддзяленне ашчадбанка "Беларусбанк" (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

Наш рахунак № 3015212330014у Гардырэкцыі Белбізнесбанка г.Менска, код 764. Кантактныя тэлефоны ў Менску 284-85-11, 213-43-52.



№ 24(409) 16 ЧЭРВЕНЯ 1999 г. наша слова

# Ад “Воўчай зграі” да “Ваўчынай ямы” праз “Жураўліны крык”

**(да сямідзесяціпяцігоддзя з дня нараджэння Васіля Быкава)**



Васіль Быкаў. 1944 год.
Ён бачыў вайну не са штаба, а з акопа.

Цудоўна разумею, што з такой нагоды Васілю Уладзіміравічу будзе прысвечана шмат узнёслых артыкулаў, выказана прыязных пажаданняў. Тое будуць рабіць, як знакамітыя асобы, так і простыя людзі, шчырыя прыхільнікі яго таленту. Крытыкі будуць аналізаваць творчы шлях пісьменніка і паводзіны герояў яго твораў.

Канешне, усё тое неабходна мець на ўвазе, але вельмі ўжо не хочацца паўтарацца.

Акопны пісьменнік. Па іншаму кажучы, апавядальнік чарнарабочага вайны. Толькі ўдумайцеся ў гэтае словавызначэнне і прыпомніце, якая колькасць савецкіх пісьменнікаў пісала акопную праўду. А заадно прыпомніце колькі было, колькі існавала “салаўёў” генштаба. Тых, хто на паперы маршальскай волею кіраваў арміямі ды франтамі – безліч. І імя ім – дагаджальнікі. А вось песняроў тых, хто суткамі мок у балотнай багне, ці мёрз ды галадаў пад несупынным абстрэлам у адкрытым стэ-пе, дзе іх генеральскай вялі-касцю нават не пахла-- адзінкі.

Героі твораў Васіля Уладзіміравіча Быкава – простыя людзі, салдаты, тыя, хто вынес асноўны цяжар той жудаснай чалавечай бойні.

Героі твораў сацыялістычнага рэалізму (у большасці сваёй) перамагаюць, як у тых амерыканскіх вэстэрнах. Толькі апошнія мелі, як узнагароду, прыгожую жанчыну ды грошы, за якія можна было здабыць дабрабыт, а нашым героям чаплялі на грудзі медаль ды заўтра ж пра іх забывалі.

Быкаўскія героі ў большасці сваёй гінуць. Як у першых яго творах, так і ў апошніх. Выжываюць толькі пацукі. А папраўдзе кажучы хто з перадавікоў сацыялістычнага рэалізму мог з былога зэка стварыць не толькі нейтральны, але нават станоўчы вобраз. Жулік Свішч (аповесць “Жураўліны крык”) ідзе бараніць Радзіму. Сярод пісаўшых на тыя тэмы падобных Васілю Уладзіміравічу мала. (Прыклад са Свішчом бадай што адзінае выключэнне, дзе мне давялося звярнуцца да героя Васіля Уладзіміравіча).

Нягледзячы на тое, што асноўныя героі твораў гінуць, але на старонках пісьменніцкага твора яны набываюць абрысы свежасці. Хрысціянскія пакутнікі. Людзі незломныя душою. Як і сам пісьменнік. Вядома, “мёртвым не баліць”, баліць жывым. Штохвілінна, штодзённа, заўжды. Інтэлегенту з вялікай літары баліць за просты зняважаны народ. А ён (пісьменнік) можа дапамагчы яму толькі праўдай, моцай свайго таленту.

Вядома не адразу, але яшчэ болей упэўнены, што не сёння і не ўчора свядомасць пісьменніка Васіля Быкава адчула роўнасць між простым салдатам і простым чалавекам, як цяпер кажуць, грамадзянінам РБ.

Можа я памыляюся, але філасофія яго твораў – стаіцызм. Гэтае тое, чаго нам не хапае так сёння. Героі твораў Быкава асэнсоўваюць усе свае крокі. Нават кантралююць іх і дзеля адной толькі мэты – чысціні душы, памкненняў і жаданняў. Самае дзіўнае, калі б Васіль Уладзіміравіч не пісаў свае творы: ці на пачатку сваёй творчасці ў пяцідзесятыя гады ці ўжо праз сваю творчую працу будучы не аднойчы ўшанаваным у росквіце свайго таленту, яго героі застаюцца звычайнымі людзьмі. У станоўчага героя няма арыёла свежасці. Ен над кожным сваім учынкам думае, разважае, мяркуе, але ў кожным выпадку імкнецца застацца чалавекам, са сваім гонарам, са сваёю годнасцю. Не малёваны спрэс чорнаю фарбаю і адмоўныя персанажы.

Тут бадай што ўсё як у нашым жыцці: блытана пераблытана, але варта зазначыць, што, як нельга, акрэслена чалавечая годнасць. А ў апошніх творах яшчэ і нацыянальная свядомасць. У быкаўскіх герояў яна ўзнікла не адразу і не нечакана, але прыйшла якраз у неабходны момант, і загаварыла ўсёй моцай таленту пісьменніка. Васіль Уладзіміравіч Быкаў сказаў сваё цвёрдае “я” ў абарону **сваёй Бацькаўшчыны**, роднага слова. Сказаў цвёрда, непахісна. Сказаў і як сапрпавўдны афіцэр не здрадзіў сказанаму.

Крытыкі шмат пісалі, пішуць ды будуць яшчэ пісаць пра маральную чысціню ды непахісную стойкасць быкаўскіх герояў. Але варта было б яшчэ ўзгадаць слова, звычайнае беларускае слова, што скарыстоўвае пісьменнік у сваіх творах. А яшчэ, як ён яго ўжывае. Прачытайце хоць адзін яго твор ці ранняй творчай пары, ці напісаны ў апошні час. Слова дапасуе да слова, выраз да выразу, а калі браць увогуле дык пад пяром пісьменніка набывае сваю непаўторнасць, ззяе, як вясновы першацвет.

Такая ўжо завядзёнка, што ў дзень юбілею, круглай даты, чалавеку дараць кветкі, падарункі, кажуць самыя шчырыя словы, а выбітных дзяржава адзначае ўрадавымі ўзнагародамі. Нават у былыя савецкія часы да апошняга пісьменніка ўлады ставіліся такім чынам. Прылюдна хвалілі, давалі ўзнагароды, міжнародныя прэміі, прысвойвалі ганаровыя званні, задобрывалі, каб ён канчаткова моцай свайго таленту не стаў супраціў улады ды па-чорнаму зайздросцілі, як усялякае бяздарнасць зайздросціць генію. Цяперашнія улады гэтага не разумеюць і таму чакаць ад яе нейкага шанавання лепшага з сыноў Бацькаўшчыны не даводзіцца. Дай Бог, каб я памыліўся.

*Язэп Палубятка.*

# Чаму плачуць матулі?

## Альбо механізм вынішчэння беларускамоўных класаў.

“Вуснамі чыноўнікаў – мёд піць”,-- кажуць людзі. Сапраўды толькі ці не мёд піць вуснамі Міністра адукацыі Стражава В.І., які заявіў на УІ з’ездзе ТБМ (на радасць недасведчаным), што ў нас з беларускамоўным навучаннем праблемаў няма. І што галоўнае, не хлусіць спадар Міністр. Возьмем ПТВ, тэхнікумы і іншыя навучальныя ўстановы, дзе ўвогуле яно, беларускамоўнае навучанне не існуе, а значыць сапраўды, для міністра тых праблемаў няма. Ці возьмем сярэднія школы: няма беларускамоўных класаў – няма і праблемаў з імі. Не трэба клапаціцца пра падручнікі, пра настаўнікаў, а дырэктару школы – не тлуміць сабе галаву ды хоць бы тым, што не трэба пастаянна сачыць за самім сабой пры размове з беларускамоўнымі вучнямі, настаўнікамі каб не ляпнуць нечага такога трасянкавага.

А што праблемы існуюць і як з імі вядуць барацьбу лепшы таму доказ лісты якія дасылаюць у ТБМ. Вось, напрыклад, што піша старшыні Рады ТБМ Трусаву А.А. класны кіраўнік 9 “Д” класа СШ № 180 г. Менска Дэц А.Г.: *“Кожны год у III-IУ чвэрцях навучальнага года ў дзевятыя класы прыходзіць завуч школы і прапаноўвае дзецям працягнуць навучанне ў дзесятых матэматычных, хімічна-біялагічных, англійскіх, фізкультурных расейскамоўных класах. Чацвёрты год школа выпускае дзевяты беларускамоўны клас, але ніколі для беларускамоўных дзяцей не было створана ніводнага профільнага ці спецкласа ні проста базавага дзесятага класа. Пытанне далейшага навучання дзяцей беларускамоўных класаў звычайна дапамагалі вырашаць сябры Рады ТБМ, ТБШ.*

*Для дзесятага беларускамоўнага класа, як сказала завуч Еўтухоўская С.А. няма кадраў, настаўнікаў. 17 красавіка праводзіўся агульны бацькоўскі сход, які праводзіла завуч Шніткоўская Л.А.. Пасля размовы з ёй мае матулі плакалі. Чаму?*

*Калі дзеці закончылі сёмы клас, для часткі вучняў былі створаны праф- і спецкласы. Зразумела, расейскія. Цяпер, паколькі школа перагружана ў 10-я класы будуць прыняты дзеці, у першую чаргу, з праф- і спецкласаў. А астатніх – калі будзе недабор. Для тых хто не патрапіць, прапаноўваюцца СШ №№ 48, 175, дзе стварэнне беларускамоўных класаў не плануецца.*

*І яшчэ, чаму плакалі матулі? За дзень да сходу сярод дзяцей праводзілася анкетаванне. Большасць маіх вучняў запісалася ў літаратурны клас, а на сходзе Шніткоўская сказала, што літаратурны клас ніхто не збіраўся адкрываць. Дзяцей 9-га “Д” класа будуць браць у дзесятыя класы СШ № 180 у апошнюю чаргу, таму што ( па словах Шніткоўскай) дырэктар школы Меяроўскі В.С. ставіць не першы год пытанне перад выканкамам Фрунзенскага раёна г. Менска пра перавод беларускамоўных дзяцей у гімназію № 4. Вучні 9 “Д” класа жадаюць вучыцца на беларускай мове ў сваёй школе ў базавым класе. Большасць з іх маюць ІІ і ІІІ групу здароўя, знаходзяцца на дыспансэрным уліку ў паліклініцы. Ім па стану здароўя ў гімназіі будзе вучыцца цяжка, прычым ехаць да яе ледзь не гадзіну...”*

Як бачна, у лісце паказаны механізм вынішчэння беларускамоўных класаў, кіруе якім пад шатамі эйфарыі вышэйстаячых чыноўнікаў дырэктар СШ № 180. Ён трапна зразумеў “ як трэба весці барацьбу з сапраўды існымі праблемамі беларускамоўнага навучання. Амаль па-сталінску: няма чалавека — няма праблем. Брава, панове Стражаў, Меяроўскі і астатнія.

**P.S.**

Перад тым, як здаць матэрыял у друк я наведаў СШ № 180. Сустрэўся з вучнямі, класным кіраўніком. Яшчэ раз пераканаўся ў справядлівасці слоў выкладзеных у лісце да нас. Адзін з вучняў сказаў, што ім прапаноўваюць настаўнікаў такіх, якія адкрыта заяўляюць аб сваім нежаданні, каб існавалі беларускамоўныя класы. Дырэктара не было, але гутарка з яго сакратаркай, Аўласенка І.В. варта таго, каб яе перадаць: *“Мёртвый это язык, его не существует. Он как латинский. На нём никто не говорит. В каждом районе своё наречие. Создали искусственный язык. Зачем разделять народ языками, чем меньше языков, тем больше понимания среди людей...”* Пасля такога ўражання, атрыманага ў пярэдняй, як кажуць, адпала жаданне ісці ў святліцу.

***Матэрыял да друку падрыхтаваў Мікола Лавіцкі, першы намеснік Старшыні ТБМ***

# Я паважаю Вас Міхаіл Чыгір

У “Нашым слове” за 28 красавіка давялося прачытаць допіс Лілеі Сазанавец пра прамінулы з’езд Таварыства беларускай мовы.

Між іншага, у сваім допісе спадарыня Сазанавец згадала і выступленне на з’ездзе намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Івана Пашкевіча. Стаўленне ўладаў да беларускай мовы вядомае ( хто мае вочы – той бачыць) і таму ніякім красамоўствам гэтае стаўленне не прыхарошыш (“мяркуйце пра чалавека па справах ягоных”). І ўсё-ткі “вяршыні” гаварлівасці ўладных прадстаўнікоў не перстаюць здзіўляць. Аказваецца, на з’ездзе Таварыства беларускай мовы – цытую Лілею Сазанавец – “спадара Пашкевіча надзвычай “абразіла” прывітанне на беларускай мове, якое з-за кратаў прыслаў на з’езд Міхал Чыгір. На думку спадара Пашкевіча, “наш самы вядомы вязень беларускую мову хутчэй за ўсё не ведае і не можа ёю карыстацца”. Што ж, моцна сказана... Толькі праўда – у іншым. Вось да прыкладу трапіўшы да мяне колькі гадоў таму нарматыўны ліст Нацбанка за 17 чэрвеня 94 года з беларускамоўнай рэзалюцыяй Міхаіла Чыгіра, на той час – Старшыні Праўлення Белаграпрамбанка. А вось урывак з інтэрвію МіхаілаЧыгіра газеце “Наша ніва” – сёлетні № 3: ***“Я думаю, што ня можа быць беларускай дзяржавы безь беларускай мовы! Ужо шмат было зроблена дзеля адраджэньня мовы: пашырылася выкладаньне ў школах, перакладаліся дакумэнты. Той Закон аб мове, які быў да Лукашэнкі, быў нармальны. На яго падставе і трэба было рухацца далей. Шмат добрага было зроблена... Але сёньня мы ўсё згубілі. Трэба будзе вяртацца на тыя ранейшыя пазыцыі, вяртаць на сваё месца нашу мову. Для мяне гэта прынцыпова”.*** Што яшчэ дадаць? Хіба тое, што неаднаразова даводзілася чуць беларускую гаворку Міхаіла Чыгіра на радыёхвалях, адрозных ад першай праграмы беларускага радыё.

Што б там хто ні казаў, Міхаіл Чыгір паміж іншага варты добрага слова і за свае паважлівыя, па-дзяржаўнаму мудрыя, належныя адносіны да беларускай мовы.

Я паважаю Вас, Міхаіл Чыгір.

*Рыгор Шаблевіч.*

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012







Чатыры тыдні ў траўні

## Час выбару будучыні настаў

### Прыватны агляд беларускага друку

**Нам жыць ды жыць яшчэ ў вяках...**
(Нацыянальны грамадскі арганізацыйны камітэт "Беларусь – 2000 гадоў". *Народная воля № 90,91,92,93*)
**Чаму так балюча моўнае пытанне на Беларусі?**
(Алесь Петрашкевіч, *Народная воля № 77, 78,79*)

Гэта быў месяц спадзяванняў простых беларусаў; як на паляпшэнне надвор'я, так і ўласнага дабрабыту, шляхам палітычных рэформаў. Калі першае ў нейкай ступені залежыць ад Усявышняга, то другое выключна ад іх саміх. Калі раней на паляпшэнне свайго дабрабыту беларусы спадзяваліся, як і ў выпадку з надвр'ем, на нейкага дзядзьку, то зараз пад час такіх шматпакутных выбараў 16 траўня палахліва выказваліся за змены. Гэтае ёсць зрух у кірунку да дзеяння. Нягледзячы на шматлікія афіцыйныя папярэджанні незалежны дэмакратычны друк не прамінуў засведчыць тыя памкненні.

Ва ўсім астатнім травень мала чым адрозніваўся ад красавіка: святы – светлыя і сумныя ды трывога на сэрцы. Трывога за тых, каго пасадзілі ў турму і яны працягваюць там сядзець. За тых, каго за памкненні да лепшае долі і волі паклікалі ў суд. І тых хто прадоўжыў сумную статыстыку зніknення людзей напрыканцы дваццатага стагоддзя ў дзяржаве, што размешчана ў цэнтры Еропы.

Бягучыя справы заўжды займаюць першае месца ў нашым жыцці. І тое, што рупіць сёння заўтра абавязкова саступіць месца іншаму. Але ёсць падзеі пра значнасць якіх можна гаварыць ужо сёння. Гэта стварэнне нацыянальнага грамадскага арганізацыйнага камітэта "Беларусь –2000 гадоў". Як вынік таму з'яўленне на старонках газеты "Народная воля" яго тастаманту "Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржаўнасці". Сярод іншага ўражвае толькі адзін пералік імёнаў, што мацавалі нашую дзяржаўнасць, адстойвалі яе незалежнасць, праслаўлялі Бацькаўшчыну на ніве мастацтва, культуры, навукі. Нашымі землякамі ганарыцца ўвесь сусвет. Прыкладам, Ігнат Дамейка – нацыянальны герой Чылі, заснавальнік універсітэта ў Сант'яга, Мікола Судзілоўскі – старшыня сената Гавайскіх выспаў, Ян Літвін – першадрукар Англіі, Зыгмунт Мінейка – нацыянальны герой Грэцыі. Гэта толькі кропля з бясконцага пераліку гэтых імёнаў. Чытач вядома можа запярэчыць, што гэта не першы артыкул, што ўсхваляем тую мінуўшчыну. Зусім не так.

"Слова да беларускага народа..." з першай да апошняй літары, кожнай сваёй кропкай і коскай сцвярджае, што нягледзячы ні на што ў беларускай нацыі ёсць будучыня. Для гэтага ёсць усе падставы, а галоўнае духоўны патэнцыял. "Слова..." яшчэ раз цвердзіць, што нацыя, якая мае такія слаўныя карані не можа бясследна знікнуць у сутарэннях гісторыі. Ёй наканавана будучыня, хоць сённяшняя рэчаіснасць цяжкая, калі не казаць – жахлівая.

А вось чаму сталася такая рэчаіснасць спрабуе адказаць на тое пытанне Алесь Петрашкевіч у артыкуле "Народзе ты, мой народзе...". Там разгляд тае тэмы ідзе ў кантэксце еднасці Беларусі і Расеі. Аўтар зводзіць на нішто міф аб тым, што беларусаў ашчасліві "старэйшы брат" зброяй далучыўшы іх да сваёй імперыі. Гэта далучэннеператварыла нас у безродных касмапалітаў. Але іхнія навукоўцы хлусліва цвердзяць іншае: "... расейская, а затым і агульнасавецкая навука з прапагандаю дзесяцігоддзямі будуць сцвярджаць пасля, што Беларусь спрадвеку была краем гэткіх іракезаў-папуасаў ды непалоханых ідыётаў. Беларусу нават хваробу прыдумалі – каўтун, якая ставіла яго па-за межамі істоты разумнай".

Два стагоддзі "братэрскіх адносінаў" Беларусі і Расеі пасеялі ў нашых галовах страшэнны недавер да ўсяго ўласнага, што каб вызваліцца ад гэтых путаў нам спатрэбяцца дзесяцігоддзі. Дзесяцігоддзі руплівай працы на ніве Адраджэння, бо нічога ў адзін момант на зямлі не адбываецца, як у раз не мяняюцца нашыя погляды ды меркаванні. І, як сведчанне таму, ідэалістычны погляд на змяненне нашых поглядаў дабраахвотнага завілейскага выгнанніка Зянона Станіслававіча, прагматычная рэальнасць сённяшняга дня ў тутэйшых апазіцыянераў ды лагодны ўхіл на ўсход нашых манкрутаў. Аб усім тым сведчыць травеньскі друк.

Спецыяльна прыведзеныя мною артыкулы аднатэмныя і ўдала дапаўняюць адзін другога. Яны прасякнуты болем за Бацькаўшчыну і непахіснай верай у светлую будучыню свайго краю.

Усё астатнее, што чытачы змаглі знайсці на старонках беларускага друку, летуценнае ды будзённае. Яно, як прыходзіць, так і адыходзіць, мала каго кранаючы. Вечная толькі – Айчына!

*Яэп Палубятка.*

# Беларусачкі

*"Сама гісторыя вучыла:*
*Шануй, народзе і цані –*
*усё, што поіць – жывіць шчыра..."*
*(Ніл Гілевіч "Родныя дзеці").*

Памятаю, два гады назад, Стральчэня Галіна, прывяла сваіх дачушак у беларускую школу. Перавяла з прэстыжнай рускай школы, якая катуецца ў горадзе ўзроўнем адукацыі, неяк было дзіўна, тым больш, што тая школа знаходзіцца побач з іх домам. А ў беларускую школу трэба дабірацца амаль гадзіну. Тым не менш яны прыйшлі і вучацца ўжо два гады. Зараз Эмілія Стральчэня ў 3 класе, а Маргарыта Стральчэня – у шостым. Дзяўчаткі вельмі здольныя, старанныя, добра вучацца, актыўна ўдзельнічаюць у школьным жыцці, Эмілія спявае ў ансамблі "Журавінка", а Маргарыта – у хоры "Лянок", палюбілі беларускую мову, вывучаюць літаратуру, беларускую гісторыю Вільні і Бацькаўшчыны. А яшчэ яны цудоўна малююць, іх малюнкі не толькі дзіцячыя працы, у іх адчуваецца талент мастака. Эмілія больш малюе пейзажы, кветкі, ілюструе казкі. Яна ўдзельнічала ў гарадскіх выставах "Вільня вачыма дзяцей" і "Дзеці Пушкіну".

У Маргарыты працы больш дасканалыя, яна малюе партрэты, зараз – серыю беларускіх вядомых дзеячоў пачынаючы з славутага Фр.Скарыны, імя якога носіць наша школа. Яна пабывала на Скарынаўскіх мясцінах Вільні, больш глыбока пазнаёмілася з біяграфіяй Фр.-Скарыны. На яе працах адчуваецца дух эпохі, у якой ён жыў і тварыў.

Малюнкі Маргарыты ўдзельнічалі ў эканамічнай выставе ў Менску, занялі першае месца, а аўтар прац атрымала дыплом. Першага лютага ў Вільні беларуская грамадскасць адзначыла 80-годдзе Віленскай беларускай гімназіі, у школе была арганізавана выстава, прысвечаная Фр.Скарыну, малявалі скарынаўскі знак, эмблему школы. Сярод малюнкаў вучняў вылучаліся працы Маргарыты і Эміліі. Зараз яны знаходзяцца ў Скарынаўскім цэнтры ў Менску, так вырашылі дзяўчаткі, падараваць прафесару Адаму Мальдзісу – вядомаму ў свеце скарынаведу. Іх мама, Галіна Стральчэня, вельмі задаволеная, што дачушкі вучацца ў беларускай школе, яна бачыць вынікі, значыць не зрабіла памылку, а наадварот. Ды і сама яна руская па нацыянальнасці стала прыхільніцай усяго беларускага, актыўна ўдзельнічае ва ўсіх беларускіх імпрэзах. Распавядала, як у іх доме прайшоў дзень без чужога слова. У дзяўчатак, відаць, генетычна заложана любоў да ўсяго беларускага. Іх бабуля, Стральчэня Валянціна Пятроўна, усё жыццё выкладала беларускую мову і літаратуру ў вясковай беларускай школе. Дзядуля, Стральчэня Нічыпар Фёдаравіч, працаваў дырэктарам той школы. Яны выгадавалі сваіх пяцёра дзяцей, усе атрымалі вышэйшую адукацыю, а падчас другой Сусветнай вайны хавалі жыдоўскую дзяўчынку. І цяпер бабуля жыве ў сваёй вёсцы, на беразе Прыпяці, недалёка ад Гомеля. Яна радуецца поспехам сваіх унучак, яны пішуць ёй лісты па-беларуску, і гэтым ганарыцца. Эмілія пачынае пісаць вершы, пакуль яшчэ толькі дзіцячыя.



**Эмілія Стральчэня і Маргарыта Стральчэня з сваімі працамі, прысвечанымі Францішку Скарыну. Сакавік 1999 г., г. Вільня. Фотаздымак Леакадзіі Мілаш.**

Вось такія прыгожыя, разумныя, таленавітыя беларусачкі жывуць у Вільні.

*Ст.настаўніца школы імя Фр.Скарыны г.Вільні*
*Леакадзія Мілаш.*



Свята, прысвечанае Дню славянскага пісьменства і друку, адбылося ў Навагрудку. Гэтым культурным мерапрыемствам пачаліся Пушкінскія дні на Беларусі, прысвечаныя 200-годдзю з дня нараджэння паэта.

*На здымку у час паэтычнага свята ў Навагрудку.*
*Фота Аляксандра Талочкі, БЕЛТА.—0—ТА/ТМ.*

## Выслухаем, дапаможам

**З кім застаюцца дзеці пасля разводу бацькоў? Якую адказнасць нясуць бацькі за невыхаванасць сваіх дзяцей? Як вызначыць долю маёмасці пасля смерці сваякоў? Якія ільготы дае дзяржава цяжарным жанчынам ці шматдзетным сем'ям? У якіх выпадках адміністрацыя прадпрыемства мае права звольніць жанчыну з працы? На гэтыя і іншыя пытанні адкажа кваліфікаваны юрыст.**

**Жанчынам часта даводзіцца самастойна вырашаць не толькі матэрыяльныя, але і псіхалагічныя праблемы. Канфлікт па працы, у сям'і, спрэчкі з дзецьмі могуць нанесці сур'ёзныя траўмы псіхіцы. Калі-нікалі патрэбна проста выгаварыцца. Дасведчаны псіхолаг мае магчымасць не толькі ўважліва выслухаць, але і нешта параіць, як сябе паводзіць у той ці іншай сітуацыі.**

**З чэрвеня ў Лідзе пачаў працу Рэгіянальны жаночы цэнтр. Вырашыць жыццёвыя праблемы жанчынам бясплатна дапамогуць кваліфікаваны юрыст і дасведчаны псіхолаг.**

**Тэл. 2 – 80 – 11.**

## Запрашаем на свята паэзіі

**17 чэрвеня, як заўсёды каля помніка Янку Купалу, у скверы яго імя будуць праведзены паэтычныя чытанні. Мінулыя не адбыліся таму, што арганізатары палічылі некарэктным праводзіць іх у першы тыдзень пасля трагедыі на Нямізе.**

**У рамках святкавання 10-годдзя ТБМ Таварыства дамовілася, што палова часу гэтага мерапрыемства будзе праведзена нашымі сіламі.**

**Ад ТБМ будуць выступаць вядомыя беларускія паэты.**

**Так што, запрашаем на наша свята.**



Незвычайная выстава адкрылася ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі. Напэўна, упершыню ў музеі цэлая экспазіцыя прысвечана святому – Свяціцелю Мікалаю-Цудатворцу. Гэта адзін з самых шанаваных і міласцівых святых. Мікола – угоднік і цудатварац, настаўнік і заступнік, ён ратуе тых, хто пакутуе, ахоўвае ўдоў і сірот, ён – "выратавальнік на водах", рыбак і пчаляр. Мікола "па межах ходзе і жыта родзе", яго абразом благаслаўляць маладых на шчаслівае сямейнае жыццё. Шматграннасць вобраза Святога Мікалая заўважыла дырэктар Веткаўскага музея народнай творчасці Галіна Нячаева і задалася ідэяй стварыць выставу. Семдзесят пяць абразоў з калекцыі музея і прыватных зборай, прадметы быту, звязаныя з дзейнасцю чалавека пад апекай Святога Мікалая і шмат прымавак, прыгаворак, стварылі вельмі цікавую экспазіцыю.

*На здымку : Адзін з абразоў Святога Мікалая са збораў музея.*
*Фота Яўгена Казюлі, БЕЛТА . – 0 – ТА/ТМ*

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



## Беларускую мову – у Еўропу!

Менскі лінгвістычны універсітэт многія ведаюць, як цэнтр замежных моў і культур. Але вялікае значэнне надаецца тут беларускай мове, бо не забываюць "ін'язаўцы" словы Францішка Багушэвіча: "Мова наша ёсць такая ж людская і панская, як французская альбо нямецкая альбо іншая якая". Сапраўды, калі хочам, каб нас паважалі ў свеце, нельга цурацца свайго роду, сваіх каранёў, сваёй мовы.

Навучэнцы МДЛУ могуць з годнасцю назваць сябе сапраўднымі беларусамі, і пацверджаннем таму з'яўляецца праведзеная ў канцы сакавіка літаратурная вечарына-конкурс "Беларускі Вавілон". Запытаецеся, чаму "Вавілон"? Бо ў гэты вечар у сценах універсітэта гучалі розныя мовы і пераклады з беларускай на іншыя еўрапейскія мовы і наадварот. З затоеным дыханнем мы слухалі паэзію У.Шэкспіра, Г.Лоркі, Г.Гейнэ, В.Шымборскай, М. Багдановіча, Я.Купалы ў перакладзе знакамітых паэтаў і нашых аматараў-перакладчыкаў – студэнтаў і выкладчыкаў МДЛУ. Так, урывак з "Зямлі пад белымі крыламі" У.Караткевіча прагучаў амаль на ўсіх мовах, што вывучаюцца ў нашай установе.

Безумоўна, вечарына не адбылася б, калі б нас не падтрымалі дэканы і рэктарат ( дарэчы, прызы і падарункі ўдзельнікам уручала дэкан факультэта англійскай мовы Н.А.Капачова). Акрамя таго, рыхтаваць вечарыну дапамагалі нашыя нястомныя выкладчыкі Алена Таболіч, Пятро Васючэнка, Васіль Ермаловіч. Парадавала і тое, што на конкурсе прысутнічалі і выкладчыкі турэцкай мовы, якія яшчэ не ведаюць беларускай мовы, але з энтузіазмам дапамагалі рыхтаваць нумары.

Варта зазначыць, што ў вечарыне бралі ўдзел не толькі студэнты са спецыялізацыяй па беларускай мове. Асабіста мне хацелася б вылучыць дзяўчат з факультэта англійскай мовы і факультэта заходнееўрапейскіх моў (Кухарэвіч Святлана, Дзічкоўская Іна, Пашкевіч Кацярына, Гаравая Інга), пераклады якіх журы ацаніла як найлепшыя. Дарэчы, на "Беларускі Вавілон" мы запрашалі і прафесійных перакладчыкаў, але, на жаль, яны не знайшлі часу, каб паслухаць і падтрымаць юных талентаў.

Між іншым, такія вечарыны-конкурсы праводзяцца ў МДЛУ не першы (і, спадзяюся, не апошні) год, бо амаль усе мы, ад рэктара да першакурсніка, перакананы: беларуская мова выжывае перш-наперш праз культуру, і задача сённяшняга пакалення студэнтаў – несці гэтую культуру ў масы, даказаць усяму свету, што беларусы – жывая нацыя, а не адарванае ад цывілізацыі племя.

У наступным годзе мы плануем правесці падобныя мерапрыемствы ў сярэдніх навучальных установах (прычым не толькі ў беларускамоўных школах!), а магчыма, і ў дзіцячых садках.

І ў заключэнні хачу прывесці радкі з верша Ларысы Геніюш "Мой родны кут", які выдатна выканала студэнтка нашага універсітэта Аня Мухаметава. Дарэчы, гэтая дзяўчына цэлы год пражыла ў ЗША і спазнала пачуцці чалавека, адарванага ад сваёй краіны, ад роднай мовы і культуры.

Пад ветру, пад буры кроз
Пад гоман хат, хто сэрцам жыў
У вясьняны чад, хто ў полі рос,
Той не пакіне родных ніў.

The one who grew with the wind's sound
With stormy dreams played in the sand,
In noisy streams spring perfumes found –
He'll never leave his native land.

*Мартысюк Ірына.*

## У памяць Міколы Трухана

Менскі тэатр драмы "Дзе-Я" сумесна з Дзіцячым фондам духоўнага і культурнага адраджэння "Сакавік" у канцы красавіка прывёў у рамках праграмы "Экалогія душы" паездку па чарнобыльскай зоне. Наведалі Жыткавічы, Петрыкаў, Мазыр, Нароўлю, Брагін, Васілевічы, Бабічы. І можна было б лічыць гэта чарговым, другім наведваннем адметных мясцін поўдня Беларусі, калі б не ўсведамленне, што няма побач Міколы Трухана, рэжысёра тэатра, блізкага сябра, з якім разам здзейснілі першую і задумвалі гэтую вандроўку. Лёс распарадзіўся інакш. Мікола пайшоў іншым, незямным маршрутам, а калегі і сябры ў яго гонар, у памяць таленавітага рэжысёра ладзілі дабрачынныя спектаклі для людзей Гомельшчыны.

У Петрыкаве, як і ў мінулы раз, гледачамі былі дзяўчынкі са спецыяльнага ПТВ. У гэтай рэжымнай установе людзі з волі – рэдкасць, дык што тады казаць пра тэатр. Дзяўчаткі ажно запішчэлі, убачыўшы артыстаў. Пазнавалі герояў, з захапленнем пляскалі. Многія выказвалі надзею, што таксама стануць артыстамі. Хто ведае, можа жаданне быць на сцэне пераможа анархісцкую энергію ўтрымальнаў спецвучылі.

У Нароўлі выступалі ў вясковай школе. І дзеці, і дарослыя радаваліся артыстам. Адчувалася, што са сталіцы не часта прыязджаюць. У Брагіне выступіць не змаглі: на Радаўніцу ўсе гледачы з'ехалі прыбіраць магілкі. Увагу вандроўнікаў прыцягнула старая пакінутая школа. Пахіленыя дзверы, выбітыя вокны, на падлозе – падручнікі. Здавалася, школа застыла ў самотным чаканні дзяцей, сцялася ў прадчуванні іх званкіх воклічаў. І так хацелася суцешыць яе, ажывіць людскімі галасамі, так не хацелася слухаць мелодыю спусташэння, што артысты выйшлі на сцэну. У спектаклі ўдзельнічалі і не артысты – старшыня фонду Марыя Міцкевіч, яе намеснік Марына Язневіч...

З залы глядзелі вочы дзяцей, якія тут вучыліся і якіх чарнобыльская навала раскідала па іншых школах... Там жа, у Брагіне, госці трапілі ў пясчаную буру, якую знялі на відэакамеру. У Менску прырода не пачувае сябе так вольна.

У Чэрвеньскім доме-інтэрнаце ладзілі заключны спектакль. Знаёмыя твары, усмешкі, захопленасць гульнёй артыстаў – гэта радавала. Не давала ж спакою тое, што з кожным годам усё прыбаўляецца дзяцей ў інтэрнатах, усё больш сіроцкіх, няпоўных сем'яў. Вялікая колькасць дзяцей пазбаўлена цеплыні бацькоўскіх хатаў. Пэўны час пачуццё сіроцкасці ў дзяцей прытупілася шматлікімі паездкамі за межы, але цяпер, калі Беларусь у вачах заходнееўрапейца паўстае дзікай зонай з пэўнымі фанабэрыямі ў адносінах да заходняй гуманітарнай дапамогі, выезды істотна зменшыліся.

У мінулую паездку Мікола Трухан гаварыў пра пашырэнне аздараўленчых праектаў, выказваў свае меркаванні, турбаваўся пра здароўе дзетак – чарнобыльцаў. Яго думкі і праекты сёння агучвалі яго сябры.

Адгучаў жалобна-ўрачысты паход па мясцінах Гомельшчыны і Меншчыны. На памяць усплываюць словы Міколы пра жыццё, якое, "як куля, свісь – і няма". Яе палёт нанізвае лёсы ўсіх нас, і трэба спяшацца, каб хоць здалёку пабачыць таго жураўля ў сваім небе, дзеля якога не лавіў сініц, што пнуліся ў руку. Творчае крэда Міколы Трухана нагадвае пра гэта.

Рабочай мовай вандроўкі, як і заўсёды, была беларуская.

*Людміла Дзіцэвіч,*
*сябра фонду "Сакавік".*

## Сустрэча з рок – князёўнай

У Беларускім універсітэце культуры студэнты 203 групы паладзілі сустрэчу з Касяй Камоцкай, бардам, салісткай рок-гурта "Новае неба". Людзей было няшмат, але гэта былі аматары спеваў менавіта Касі, і іх цікавіла ўсё – і жыццёвыя акалічнасці, і пачатак творчасці, і мары, і планы.

Кася распавяла пра тусоўкі 80-х гадоў, пра сваё сяброўства ў "Тутэйшых", дзе былі Вінцук Вячорка, Адам Глобус, Анатоль Сыс і іншыя. Першыя Дзяды ў парку, першыя песні, першыя знаходкі. На Дзядах Кася і знайшла Радзіму. Не савецкую, эсэсэраўскую, а іншую. Адкрыццём было для звычайнай мянчанкі, што Радзіма мае адметную, не напісаную ў падручніках гісторыю з годнымі асобамі, пра якіх не расказваюць настаўнікі, мае мілагучную пракавечную мову, якой цураюцца ўсе навокал. Беларусь пашчаслівела на яшчэ адну сапраўдную дачку.

У канцы 80-х пашырыліся творчыя стасункі. З "Мрояй" запісалі на роднай мове тры песні. На жаль, яны згубіліся. Працавала з вершамі Адама Глобуса, Міхала Амнепадыстава, Тацяны Сапітко і інш. Вельмі любіць Уладзіміра Караткевіча, але з жартам кажа, што ўсё магчымае ўжо забраў Алесь Камоцкі. Цяпер звярнула ўвагу на лірычны радок Ул.Жылкі.

Кася заўсёды хацела прасіяваць пра каханне, у існаванне якога верыла і верыць. Калі ўжо чалавек можа ахвяраваць самым дарагім – свабодай, то несумненна на гэта яго можа падбіць толькі такое ўсеапаглынальнае пачуццё.

Калі ж гаворка зайшла пра творчую і ўласную свабоду, то высветлілася, што для Касі гэта адно і тое ж. Сям'я для яе – найвялікшая каштоўнасць у жыцці, і калі ў ёй сапраўды блізкія людзі, то не дзеліш іх і сябе. Яны падзяляюць твае погляды.

Пра мары свае Кася гаварыла коратка. Ёй вельмі да спадобы той час, калі ёй не трэба будзе спяваць многія свае песні, накшталт "Прэзідэнт, ідзі дамоў" і інш.

У планах рок-князёўны гастролі ў Познань, потым з "Народным альбомам" у Варшаву, Львоў, які зусім нядаўна адкрыла для сябе. Гэты горад – каралачак Вялікага княства Літоўскага, і людзі вельмі прыязна ставяцца да беларусаў. У горадзе струменіць творчае натхненне, львоўцы, якія ў гады савецчыны з'ехалі з зоны таталітарнага рэжыму, цяпер з-за мяжы фундуюць шматлікія творчыя задумы.

Кася ўпэўненая, што будучае ў беларускай музыкі ёсць, і яно не далёкае. Распачаўшы з "Песняроў", беларуская песня трывала заваёўвае прастору. Цяпер быць беларускамоўным гуртом больш прэстыжна, чым англа – ці расейскамоўным. У гэтым агульным хоры свае пазіцыі пашырае і беларускі рок.

Разыходзіліся студэнты надзвычай задаволенымі, з касетамі, якія падаравала спявачка. Кожны меў каляндарык з аўтографам славутай Касі, у памяці гучаў голас непараўнальнай, таленавітай, такой роднай, чароўнай рок-князёўны.

*Людміла Дзіцэвіч.*

# ЛІРЫЧНАЯ ПЯТНІЦА Ў ТЭХНАЛАГІЧНЫМ

Беларускі дзяржаўны тэхналагічны універсітэт здаўна славіцца культурна-асветніцкімі традыцыямі. Выкладчыкі на лекцыях пашыраюць уяўленні пра родную гісторыю, культуру, мастацтва. Актыўна працуе суполка Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны. Выкладчыкі кафедры беларускай мовы (загадчык Вольга Кузьміч) вядуць актыўную работу па нацыянальным выхаванні. Універсітэт арганізоўвае сустрэчы з выдатнымі людзьмі нашай эпохі.

У гэтым навучальным годзе выкладчыкі замацавалі яшчэ адну традыцыю – ладзіць па пятніцах знаёмствы з паэтычным словам, сучаснай бардаўскай ці народнай песняй. Госцем першай лірычнай пятніцы быў Генадзь Бураўкін. Зала зачаравана слухала шчырую споведзь пра сваё жыццё: уваход у літаратуру, працу на Дзяржтэлерадыё, дыпламатычную працу ў ЗША, клопаты старшыні Таварыства беларускай мовы. Адказы паэта на пытанні студэнтаў былі настолькі шчырыя і адкрытыя ( а пытанні маладых вызначаліся глыбінёй і завострансцю, закранаці даволі складаныя аспекты эканамічнага, палітычнага, культурнага жыцця краіны), што дзвюхгадзінная сустрэча праляцела хутка і незаўважна. Студэнтам хацелася і аўтограф атрымаць --балазе "Кнігарня пісьменніка" прывезла на унівесітэт на продаж новы зборнік паэта "Выбранае", — і сфатаграфавацца разам, і проста зблізку пабачыць славутага паэта. Напрыканцы вечарыны гучала бардаўская песня ў выкананні Касі Камоцкай. Адчувалася, што моладзь ведае і любіць салістку рок-гурта "Новае неба".

Рыгор Барадулін захапіў студэнтаў сатырычнай праніклёнасцю сваёй паэзіі. Маладыя пазнавалі ў вершах грамадскія і палітычныя дзеячоў Беларусі і бурна рэагавалі. Гумарыстычна-сатырычную накіраванасць вечарыны ўдала змяніў лірычны спеў гітары Алеся Камоцкага. Хвалі любові да свайго краю, захаплення жаночай прыгажосцю, роздуму пра чалавечую існасць запаланілі залу, і слухач на хвіліну пазбыўся зямных побытавых турбот.

Уладзіміра Арлова і барда Зміцера Бартосіка студэнты закідалі пытаннямі. Ім хацелася ведаць пра першае каханне і першы радок, пра адносіны Ул.Арлова да сённяшняй палітыкі ўладаў і адносіны барда Зм. Бартосіка да сучаснай рок-музыкі. Хачу адзначыць, што студэнты Тэхналагічнага адметныя інтэлектам і шырынёй культурніцкіх інтарэсаў. Падчас конкурсу па гісторыі і культуры Беларусі студэнты называлі пісьменнікаў, імёны якіх ЮНЕСКА ўключыла ў календар міжнародных дат, імёны трох першадрукароў Беларусі, час і аўтара клічу "Жыве Беларусь!", вызначылі, што агульнага ў назвах "долар" і "талер". Калі госцем адной з лірычных пятніц быў паэт і бард Валерый Пазнякевіч, студэнты прасілі песень сатырычных і палітычных, пра мову і пра Беларусь.

Радуе, што аспекты Беларусшчыны вабяць маладых. З цікавасцю слухалі яны аповед Лявона Акаловіча пра радавод, знакамітыя беларускія шляхетныя роды, іх гербы, заахвочваліся да пошуку уласнага генеалагічнага дрэва.

Адкрыццём для многіх стала сустрэча з вядомай фальклярысткай Ляй Салавей. Беларусы добра ведаюць грэчаскую і рымскую міфалогію, а пра сваю толькі трошкі чулі. Знаёмства з багаццем беларускай міфалогіі прынесла разуменне, колькі яшчэ непазнанага ў роднай культуры, колькі таямніц захоўвае беларускі фальклёр.

Студэнты, аспіранты і выкладчыкі БДТУ удзельнічалі таксама ў свяце Святога Патрыка, што ладзілі Дом дружбы, фонд "Беларусь-Ірландыя", дзіцячы фонд "Сакавік" у парку імя М.Горкага. Яны знаёміліся з ірландцамі, якія прыехалі па спецыяльным даручэнні прэзідэнта Ірландыі, слухалі ірландскія мелодыі ў выкананні гельскіх музык і танчылі пад іх, абмяркоўвалі з гасцямі такія падобныя праблемы ірландскай і беларускай моў. Ва універсітэце вучацца студэнты з усіх куткоў Беларусі, і калі прыйдзе пара выпускнікам развітацца з Менскам, ім будзе пра што расказаць на месцы сваёй працы. Пра гэта дбаюць выкладчыкі Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта Вольга Кузьміч, Надзея Савіцкая, Рэгіна Міксюк, Тэрэза Жукоўская, Галіна Казлоўская, Тамара Федарцова і інш.

*Людміла Дзіцэвіч, намеснік старшыні ТБМ.*

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012





(Працяг. Пачатак у №23)

У Еўропе 12 краін аб'ядноўваюцца ў адзіны саюз. У супольначалавечым жыцці-доме гэтага патрабуе дух часу – быць разам з іншымі народамі, але быць сабой, са сваёй культурай, мовай, быць незалежнымі і гэта здаецца нармальным, час і людзі пакажуць.

Кожны народ мае ад Бога своеасаблівую ласку і абарону – сваю святыню, санктуарый – святое месца пілігрымак, сваіх святых заступнікаў – апекуноў краіны. Як кожны з нас мае свайго Анёла-Апекуна і Святога, імя якога мы носім ад святога Хрышчэння і да яго звяртаемся ў сваіх малітвах і з просьбамі, падобна і кожная краіна мае свайго Анёла-Апекуна. З даўніх часоў Каталіцкі Касцёл прысвяціў Беларусь апецы св. Міхала Арханёла і Маці Божай Будслаўскай. Праваслаўная Царква даручае Беларусь апецы св. Ефрасінні Полацкай. І падобна так кожная краіна, народ прысвяціла сябе і сваю Айчыну апецы Божай і заступніцтву Святых. Паглядзіце ўважліва на гербы розных краін свету, на гербы розных гарадоў Беларусі, напр. г.Менска, і іншых краін, як г.Масквы, Казанская Маці Божая, і зразумееце.

Такім чынам, калі хто выступае супраць іншага народа, краіны, культуры, мовы, тым самым грашыць перад Богам, выступае супраць Бога і Святых Апекуноў-Заступнікаў, а гэта ўжо вельмі цяжкі грэх. Таму і названа нашымі прадзедамі барацьба ці вайна ў абарону Айчыны "свяшчэнная вайна", і гэта не толькі дзеля свабоды, каб не быць у няволі-рабстве, але больш дзеля культуры, развіцця таго ці іншага народа, яго духоўнасці, яго канкрэтнага задання, мэту і заданне жыцця, якое наканавала Боскае прадбачанне. БОГ, АЙЧЫНА, ЗБАВЕННЕ!

Як кожнаму чалавеку Пан Бог блаславіў дар жыцця, так і заданнем у жыцці, вызначыў жыццёвы шлях і прызначыў узнагароду і вечнае збавенне, таму і чалавек не мае права загубіць сваё жыццё самазабойствам, гэта смяротны і непрабачальны грэх. Цяжкі грэх, калі чалавек шкодзіць здароўю, як наркаманія, беспрабудная п'янства, забойства, сэкцярства, за гэтыя грахі будуць пакутаваць некалькі пакаленняў родных, дзеці і ўнукі. Сваімі бязбожнымі паводзінамі чалавек пярэчыць Богу, падобна Люцыферу – не буду слухацца. Ведаю Божа, што Ты ёсць, існуеш, але не буду Табе служыць. Такі чалавек, які хоча адабраць у сябе жыццё, ці губляючы дар здароўя, хоча сваёй воляю перакрэсліць Божую волю. Ці ж гэта ён зможа? Выйграе, пераможа толькі д'ябал, а не чалавек ім спакушаны і яму адданы. Так і кожнаму народу Пан Бог наканаваў жыць у поўным значэнні гэтага слова. "Жывіце і размнажайцеся, рабіце зямлю сабе падданай" (Ств. 1,28). Яўнае заданне кожнаму народу жывіце... і Бога хваліце. Пан Бог дае жыццё і ты, чалавек, не маеш права яго знішчыць ані сабе, ані бліжняму.

Езус кажа: "Дазвольце дзецям прыходзіць да Мяне, бо такім належыць Валадарства Божае" (Мк. 10,14). Тут разумеем не толькі дзяцей з сем'яў, але народы з агульначалавечай сям'і. Але, як паказвае гісторыя народаў свету, калі хтось адзін узвышаў расу, нацыю па-над іншымі, хочучы знішчыць іншыя нацыі, забіць, як нацыю, грашыць такім жа цяжкім грахом, самазабойца. Часта пасля вайны генералы, палкаводцы атручваліся, вешаліся, страляліся, як Гітлер і інш., альбо ўсенароднае правасуддзе іх асудзіла і пакарала (казніла) (Нюрнберг...). Бо з капцюроў адданай д'яблу душы, выйсця, ратунку амаль няма, а толькі яшчэ глыбейшае падзенне ў геену вогненную.

Да мяне, святара, звярнуліся з просьбаю напісаць артыкул "Беларуская мова ў Касцёле". А што такое напісаць артыкул? Гэта падзяліцца з Вамі, дарагія людзі, бацькі, настаўнікі, інтэлігенцыя, вучоныя і шаноўная моладзь сваімі думкамі, як святара і духоўнай асобы. Адкрыць Вам тайны сэрца ў вельмі ўзнёслым і далікатным пытанні матчынай мовы, поўным дзіцячых уражанняў:

***...Хай будзе Бог у сямейным коле,***

***У жыцці бацькоў, у дзіцячых снах.***

Тым больш, калі ідзе размова пра Касцёл і тэмаю якой з'яўляецца мова. Лягчэй і хутчэй хацелася б адказаць словамі Езуса Хрыста: "Калі Маім словам не верыце, дык паверце ўчынкам Маім, яны гавораць пра Мяне" (Ян.10,38), але тут сёння Вы хочаце ведаць і думкі, і сэрца.

Просьба-заданне вельмі ўзвышанае і ганаровае, у некаторых выпадках нават складанае, але адказваць трэба і тым больш святару.

Ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк

# РОДНАЯ МОВА

## СЛОВА З ЧЫРВОНАГА КАСЦЁЛА

Цяжка ў жыцці даказваць самае простае, зразумелае, даступнае. А ці варта даказваць, напрыклад, што Чарнобыль побач з намі, што цяпер зіма і г.д.

Як даказаць Вам, добрыя людзі, што беларуская мова неабходна, каб была ў храмах і дзе? – тут у нас у Беларусі!

Тут маю жаданне прывесці словы Патрыяршага Экзарха ўсея Беларусі Мітрапаліта Менскага і Слуцкага Філарэта: "Себя очень корю, что "не размаўляю па-беларуску". Это мой недостаток. Но я стараюсь, чтобы и в церкви звучал белорусский язык, и чтобы церковь в этом отношении не отставала. Также я благославил в Петропавловском Соборе совершить некоторые частные богослужения, как крещение, венчание, молебны на белорусском языке. Некоторые молодые семьи желают, чтобы в процессе богослужения звучала родная "мова". Еще я прошу отцов общаться с народом "на беларускай мове" и проповедовать слово Божье". Размову правяла Валянціна Шымановіч (артыкул "Любить человека – это всегда подвиг" у часопісе "Беларусь" № 4, 1998 г.).

Калі б паўстала пытанне пра ўвядзенне беларускай мовы, напрыклад, у Латвіі, Літве, Германіі, яно было б больш-менш зразумелае і шукалі б працэнтаў, колькі пражывае беларусаў у дадзенай краіне. А ў Беларусі, гэта павінна быць сілаю факту і рэальнасці – гэта Беларусь. Таму прашу цябе, шаноўны чытач, задумацца, чаму загаловак артыкула не **"Беларуская мова ў Касцёле"** (так прасілі назваць), а зменены мною на:

**"Родная мова ў Касцёле".**

Беларускую мову, як і кожную іншую мову, можна замяніць, ігнараваць, адкінуць, але родную мову – ніколі, гэта святатацтва, гэта сцягне не толькі грэх, але і праклянне. "Калі, Ерусаліме, я забуду цябе, няхай адсохне правіца мая! Няхай язык мой прыліпне да гартані маёй, калі я не буду помніць цябе, калі Ерусалім не пастаўлю за найвышэйшую радасць маю" (пс. 137, 5-6).

"Хваліце Пана, усе народы! Слухайце Яго ўсе народы! Бо вялікая ласка Яго над намі, і праўда Яго трываць будзе навекі!" (Пс. 117, 1-2).

Пытанне пра мову ў касцёле пастаўлена вельмі рытарычна, бышцам без Вас, без людзей Касцёл вырашыць гэтую праблему. Твой і ўсіх святы абавязак. Касцёл, гэта мы – людзі!

Мы ўсе разам перажываем цяжар перабудовы, многае для нас успрымаецца балюча і з неразуменнем. Хуткія перамены, і ў цэнах і ў адносінах паміж людзьмі, няўпэўненасць у заўтрашнім дні, асабліва для людзей сталага ўзросту, усё гэта насцярожвае і трывожыць нас, дык якраз цяпер і настаў для нас з табою той момант выпрабавання на веру Богу, якога мы духу. Ці вярнуцца ў Храмы і прасіць Божага святла, розуму і вытрымкі, альбо зноў хадзіць кругамі па бязводнай – бяздушнай пустыні, наступаючы адзін другому на пяткі. Калі добра і спакойна жывецца чалавеку, то кажа: "Няма Бога, я сам сабе бог". Калі ж бяда і трывога перапаўняюць розум і сэрца чалавечае, тады зноў крычыць: "Няма Бога, бо чаму не дапамагае, не ратуе". Бо ты, чалавеча, ніколі да Яго не звяртаўся, як сын ці дачка з любоўю і шчырасцю, а заўсёды ставіўся горда перад святымі абразамі ці храмамі, з гонарам: "Не пажадай і не рабі бліжняму таго, што табе не падабаецца, каб і ты не атрымаў падобнае".

Святое Пісанне і Катэхізм Каталіцкага Касцёла гаворыць, што чалавек жыве толькі адзін раз у гэтым жыцці, дарогі назад няма. Усе мы памятаем крылатую цытату пісьменніка Мікалая Астроўскага: "Жизнь надо прожить так, чтобы за прожитые годы не было мучительно больно"... Але гэта застаецца бяздушным афарызмам, як абвестка, аб'ява на слупе. А хто, якая сіла ўдыхне духу ўсяму добраму, хто перанясе гэтыя засушаныя і без жыцця ідэалы ў людскія жывыя сэрцы, душы моладзі, хто ўзрасціць , як не храм, вера і сапраўднае, разумнае, духоўнае адраджэнне. Усе мы ўсё разумеем, але ці ж думаеце, што вінаватыя толькі апошнія гады? Тут трэба ўбачыць і апошнія стагоддзі і не толькі ўскладаць віну на адзін Касцёл, што сённяшні дзень становіцца такое балючае пытанне: "Ці можна ў Беларусі ў храмах прапаведваць і маліцца па-беларуску?"" Гэта падобна таму, што ходзім паміж людзей і даказваем, што цяпер зіма. А як бы рэагавалі на падобнае пытанне тыя ж немцы ў Германіі, французы ў Францыі, калі б на старонках газет, часопісаў уздымалі пытанне, якая мова павінна быць у нямецкіх ці французскіх храмах, школах, інстытутах... Для іх і ўсіх іншых народаў ніколі не ўзнікала нават сумненняў, ці можна гаварыць і маліцца на роднай мове сваіх продкаў.

Выконваючы душпастырскія абавязкі пробашча ў Малдавіі (Кішынёве) з блаславення Кардынала Юліяна Вайводса мною была ўведзена ў набажэнствы нямецкая мова, адна з многіх моў у касцёльных набажэнствах Малдовы. Імша Святая і ўсе Сакрамэнты таксама служыліся на нямецкай мове для многіх нямецкіх сем'яў, якія пераязджалі з Казахстана ў Германію. Тысячы людзей з розных куткоў Малдовы, пераадольваючы па 100-200 км. машынамі, аўтобусамі, электрычкамі, з сем'ямі прыязджалі кожную нядзелю на "сваё набажэнства". "Касцёл, — гаварылі яны, — гэта адзінае месца ў Малдове, дзе мы адчуваем сябе паўнацэннымі людзьмі, як дома, дзе ніхто нас не прыніжае. Тут, у храме, мы можам спакойна маліцца і размаўляць на роднай, нямецкай мове". Як бачым і на прыкладзе Казахстана, дзе таксама набажэнствы вяліся на розных мовах тых людзей, якія розньмі лёсамі туды трапілі, што Касцёл у духоўным сэнсе, як адзін з першых працягнуў духоўную руку прабачэння і добрых узаемаадносін паміж людзьмі і нацыямі. Спачатку воля і дух, а пасля, як бачым цяпер, настолькі мы пасталелі і паразумнелі, што спакойна працягнулі руку згоды і атрымліваем з Заходу матэрыяльную, гуманітарную, медыцынскую і тэхнічную дапамогу, адпраўляем дзяцей на аздараўленне да тых жа немцаў, наладжваем культурныя ўзаемаадносіны, абменьваемся досведам, ездзім у гарадскім транспарце, аўтобусах і талейбусах, нямецкай вытворчасці распісаных нямецкімі рэкламамі. Як вялізарная віхура – смерч праляцела ідэалогія фашызму, столькі змяшала і збунтавала народаў, нарабіла бяды і гора, але дзякуй Добраму Богу, мы залечваем нашыя раны. Не народы вінаватыя, але тыя, хто ўкінуў і нас у гэтую сляпую бездань.

Працуючы душпастарам у Латвіі ў парафіях гарадоў: Валміера, Скрунда, Салдус, Кулдіга і інш., меў блаславенства і дазвол ад шаноўнага Кардынала Юліяна Вайводса, і вялікае зразуменне, тады яго сакратара, а сёння Мітрапаліта Латвіі Яна Пуятса на першыя рэгулярныя набажэнствы – Імшы Святыя для ўсёй парафіі на латышскай мове і ўдасканальвання гэтых тэкстаў. На той час па ўсёй Латвіі, асабліва і ў рэгіёне Курзэмэ, Імша Святая служылася толькі на лацінскай мове. (Курзэмэ – паўночна-заходняя частка Латвіі, дзе латышская мова служыць амаль эталонам літаратурнай мовы ўсёй Латвіі). Першыя набажэнствы на латышскай мове сталі вялікай сенсацыяй, распачалі прыходзіць больш людзей, моладзі, пратэстанты-лютэране вярталіся зноў да Рыма-Каталіцкага Касцёла, кажучы: "Цяпер мы разумеем богаслужэнне, і будзем маліцца з вамі". У г.Салдус самі лютэране – вернікі вярнулі каталікам адзін з найбольшых касцёлаў у цэнтры горада, (які ў часы ўвядзення лютэранства насільна адабралі ў каталікоў), і бралі актыўны ўдзел у набажэнствах. Мова, асабліва родная, аб'ядноўвае, саграввае, развівае, беражэ не толькі самаго чалавека, але і яго сям'ю, супольнасць, народ, нацыю, тады і Бог адзін, а людзі хоць і розных веравызнанняў блізкія і любыя. І тым больш, калі людзі чуюць родную мову ў Святынях сваёй Бацькаўшчыны, а там мова яшчэ больш узвышаная, бо духоўная, чыстая, малітоўная, з сэрца, душы, поўная даверу і веры, мова голасу душы, які вырываецца з грудзей, мова, поўная любові да Бога і бліжняга, мова прабачэння, дзе чалавек, яго душа напаўняюцца сілаю вытрымкі і моцы духу. "Ідзі і скажы гэтаму народу, — кажа Пан Бог да прарока Ісаі. – "Чуць будзеце і не зразумееце, і вачамі глядзець будзеце і не ўбачыце" (Іс. 6,9). Што тут скажаш, калі хочам мець адраджэнне ці то мовы, ці культуры, ці народа, як адзінкі, трэба распачынаць заўсёды ад духу. "Хрыстус даў нам здольнасць быць слугамі Новага Запавету, не літары, але духу, бо літара забівае, а дух ажыўляе" (2 Кар. 3,6). Без салідная адраджэння веры ў нашых сем'ях, сэрцах і вяртанне ўсіх, малых і старых да першакрыніц духоўнасці не ўбачыць нам плёну жыватворнага адраджэння. Дар адраджэння трэба вымаліць дзякуючы Святыням, а шукаць яго першапачаткі і знайсці можна толькі ў ціхіх, глыбінных, святая святых тайніках сваёй душы – там твой скарб, а тут тваё поле – Бацькаўшчына.

Для розных нацыянальных меншасцяў, ва ўсіх краінах свету, дзе яны жывуць, там існуюць храмы – парафіі са святарамі, якія абслугоўваюць іх на іх жа мове.

Паўстае пытанне: "Што такое Касцёл?" Гэта людзі, народ. Без людзей няма Касцёла. Касцёл пасярэдзіне між людзьмі, гэта мы з вамі, сьвятары і бацькі, дарослыя і дзеці, вучоныя і простыя.

*(Заканчэнне ў наступным нумары).*

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



Т. А. Джумантаева

# Да пытання аб музейных традыцыях Полацка. Музей езуіцкага калегіюма 18-19 ст.ст.

Інстытут музея з'яўляецца ў 14-15 ст.ст. Але яшчэ раней існавалі асобныя калекцыі, якія можна назваць дамузейнымі зборамі. Што тычыцца Полацка, то сучасныя беларускія музеёлагі схільны лічыць такімі зборамі музейнага характару рэчы, што былі сабраны пры жыцці Еўфрасінні Полацкай у Спасаўскім манастыры і Сафійскім саборы.

На першым этапе станаўлення музейнай справы на Беларусі штуршком для з'яўлення і існавання прыватных збораў магнатаў Радзівілаў, Сапегаў, Солтанаў, Прозараў, Плятэраў, Любецкіх і г.д. былі адны і тыя ж прычыны.

Перш за ўсё, гэта развіццё навукі і яе перамога над схаластыкай, што патрабавала навуковых доказаў і крытычнага падыходу да асобных з'яў у гісторыі, у тым ліку і натуральнай. Па-другое, геаграфічныя адкрыцці спрыялі знаёмству з невядомымі дагэтуль краінамі і культурамі. Пачаўшыяся археалагічныя даследаванні Пампеі і іншых аб'ектаў падвоілі цікаўнасць да антычнасці, якая ў 18 ст. стала эталонам для еўрапейскай культуры. Шматлікія войны гэтага перыяду спрыялі перамяшчэнню калекцый з адной краіны ў другую. Гэтаму ж працэсу спрыяла і развіццё гандлю, тым больш, што папулярным стала праведзенне аўкцыёнаў, дзе на продаж пачалі выстаўляцца антыкварныя рэчы. Навукова-тэхнічная рэвалюцыя і з'яўленне навуковых таварыстваў і акадэмій навук дазволіла пазнаёміцца з адкрыццямі ў галіне навукі і тэхнікі шырокаму колу людзей, якія цікавіліся прагрэсам.

Характэрнымі рысамі прыватных калекцый таго часу былі: універсальнасць, сацыяльная адасобленнасць і фрагментарнасць. Аднак калекцыі захоўвалі пэўныя помнікі гісторыі і культуры.

У другой палове 18 ст. беларускія прыватныя калекцыі І.Храповіча, А. Ябланоўскай, А.Тызенгаўза, Я.Масальскага ўжо істотна адрозніваліся ад сядзібных магнацкіх калекцый. Былі зроблены першыя спробы ўвесці сабраныя прадметы ў навуковы ўжытак. Збіральнікі ўпершыню прыйшлі да асэнсавання прыналежнасці сваіх каштоўнасцяў усяму грамадству.

У выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай частка беларускіх зямель была далучана да Расейскай імперыі, дзе таксама пачалося фармаванне навуковай думкі ў дачыненні да вывучэння і захавання помнікаў гісторыі і культуры. Але вынікам гэтага "далучэння" была страта многіх калекцый, што былі вывезены ў Маскву і Пецярбург. І гэта здарылася ў той час, калі на Беларусі пачалі складвацца ўмовы для вывучэння збораў музейнага значэння з пункту гледжання гісторыі, крыніцазнаўства і мастацтвазнаўства.

Узнікненне першых музеяў на Беларусі было звязана з асветніцкім характарам збораў, развіццём і дыферэнцыяцыяй навук. Адсутнасць акадэмічных навуковых устаноў абумовіла з'яўленне "музеумов" і "кабинетов" у складзе вышэйшых, а далей і сярэдніх навучальных устаноў. Ёсць звесткі пра існаванне такіх музеяў пры: Полацкім езуіцкім калегіюме і акадэміі, Гарадзенскай медыцынскай акадэміі, Віленскім універсітэце, Горы-Горацкім земляробчым інстытуце, губернскіх гімназіях у к.18-пач.19 ст.ст.

Музеі названых навучальных устаноў спрыялі ўвасабленню дыдактычнага прынцыпу – нагляднасці навучання. Іх зборы пашыралі кругагляд вучняў, выхоўвалі мастацкі густ, спрыялі засваенню ведаў, пабуджалі да ўдзелу ў даследаванні гісторыі і прыроды краю. Гэта сведчыла аб зараджэнні адукацыйна-выхаваўчай або сацыяльнай функцыі музеяў.

Акрамя таго, дзякуючы энтузіязму асобных настаўнікаў, зборы музеяў падчас ператвараліся ў сапраўдныя навуковыя лабараторыі. Яны вызначаліся навуковай апрацоўкай музейных рэчаў і цэлых калекцый, а часам і нязвыклай экспазіцыяй.

Да шэрагу такіх музеяў адносіўся і Музей Полацкага езуіцкага калегіюма, а потым акадэміі.

Вядома, што езуіты былі запрошаны ў Полацк каралём Рэчы Паспалітай Стэфанам Баторыем адразу пасля вызвалення горада ад маскоўскіх войскаў у 1579 г. з мэтай адкрыцця езуіцкай вучэльні. Пётр Скарга, які ўзначальваў акадэмію ў Вільні, павінен быў кіраваць заснаваннем езуіцкага калегіюма ў Полацку. Атрымаўшы паводле каралеўскага данацыйнага акта землі ў Полацку, езуіты адкрылі калегіюм. Ён месціўся ў Экімані, адкуль у 1598г. быў перанесены на Ніжні замак. А ў 1747-1749 г.г. замест драўляных пабудоў пачалі ўзводзіцца каменныя карпусы. Першы з іх быў пабудаваны пад кіраўніцтвам Якуба Руофа, а потым будаўніцтвам кіраваў вядомы ў Еўропе архітэктар Г.Грубэр, які ў 1784г. узначаліў Ордэн у Полацку. Габрыэль Грубэр (1740-1805) стаў ініцыятарам стварэння музея ў Полацкім езуіцкім калегіюме. У ордэн езуітаў ён уступіў у 15 гадоў у Аўстрыі. Г. Грубэр атрымаў цудоўную адукацыю, ён валодаў энцыклапедычнымі ведамі ў розных галінах навукі: тэалогіі, філасофіі, маляванні, жывапісу, матэматыцы, фізіцы, астраноміі, грамадзянскай і вайсковай архітэктуры, італьянскай і французкай мовах, музыцы, медыцыне, гідрауліцы. У лютым 1784 г. ён пераехаў у Полацк. З 1784 па 1799гг. ён выкладаў у калегіюме матэматыку, механіку і архітэктуру, а з 1801г. – эксперыментальную фізіку. Апантаны ідэяй музея, Грубэр спраектаваў і пабудаваў яго ў 1788г. Будаўніцтва спецыяльнага трохпавярховага корпуса для музея стала выключнай з'явай у дзейнасці полацкіх езуітаў. Грубэр асабіста зрабіў шэраг механізмаў і інструментаў і распісаў сцены музея фрэскамі. У стварэнні музея яму дапамагалі: Францыск Ксаверы Шопфер (Схопфер), Крыстаф Шміт і Ян Сомерэр.

Як мы ўжо ўзгадвалі, музей, як сацыяльны інстытут быў добра вядомы многім езуітам, якія раней працавалі ў буйнейших універсітэтах Еўропы. Пасля ад'езду Г. Грубэра ў Санкт-Пецярбург музеем займаліся яго паслядоўнікі ў музейнай справе Францыск Рыка, Юзаф Цітовіч, якія многа зрабілі, каб узбагаціць збор музея, апошняму выпала здаваць музейныя калекцыі царскім чыноўнікам. У дакументах ён фігуруе, як "наглядчык музеюма".

Музей валодаў вялікай колькасцю калекцый. Сярод музейных рэчаў былі: рукапісныя і старадрукаваныя кнігі, культавыя і свецкія рэчы, што захоўваліся ў цэрквах і манастырах Полацка; калекцыі і прадметы агульнагістарычнага характару, электрычныя і механічныя прылады і інструменты, што прывозіліся з-за мяжы; прадметы, якія езуіты выраблялі на месцы, калекцыі натуральнай гісторыі, што яны збіралі ў ваколіцах Полацка (напрыклад, узоры глебы Віцебскай губерні). Вядома, што ў Полацку выраблялі рэчы для царскага Эрмітажа ў Санкт-Пецярбурзе.

Паколькі ў 18 ст. яшчэ не склаліся досыць прынцыповыя прычыны раздзялення музея, бібліятэкі і архіва, то ў дадзеным выпадку мы будзем разглядаць музей, як адзінае цэлае (разам з галерэяй, бібліятэкай і архівам).

Сабраныя ў музеі калекцыі езуіты выкарыстоўвалі для дэманстрацыі пры выкладанні той ці іншай дысцыпліны, дазвалялі палачанам і гасцям горада наведваць музейныя кабінеты. Наведаўшы ў 1807 годзе музей Людвіг Броэль-Плятэр пісаў: "Музей падзелены на некалькі кабінетаў і ў яго склад акрамя ўсяго ўваходзяць мадэлі архітэктычныя, калекцыя медалёў і другіх старадаўніх прадметаў, а яшчэ – збор абразоў". Адметнай рысай музея ў Полацку была наяўнасць залы архітэктонікі, якая ўтрымлівала копіі і мадэлі, пачынаючы з вялікіх старажытных калон, заканчваючы прамысловымі мадэлямі, узорамі муроўкі, мадэлямі мастоў і гмахаў і г.д. Гэтая зала была прызначана для заняткаў па маляванню. Увогуле музей займаў многа памяшканняў. Акрамя названай залы, у склад музея ўваходзілі: тры памяшканні фізічнага кабінета, хімічная лабараторыя, кабінет натуральнай гісторыі, тры залы бібліятэкі, карцінная галерэя, зала для экзаменаў і зала для дыспутаў.



**Касцёл святога Стэфана і Полацкі езуіцкі калегіюм на паштоўцы пачатку XX стагоддзя**

А. Марэль, які быў выкладчыкам у кадэцкім корпусе, заняўшым у 1835г. памяшканні езуіцкага калегіюма, так піша пра музей: "Музей состоял во 1) изъ физического кабинета, во 2) картинной галереи и въ 3) астрономического зала, минералогической коллекціи, разных раковинъ и рЪдкостей. ...Библиотека размЪщена была въ трёхъ комнатахъ и состояла изъ 1-главной библиотеки, 2-комнатной библиотеки и 3-польской библиотеки."

Цікавым на наш погляд, з'яўляюцца апісанні мэблі бібліятэкі і аздаблення лесвіц і пераходаў. "При входЪ въ главную библиотеку между двумя вЪтвями лЪстницы, ведущей къ ней, на корридорЪ среднего этажа, устроена въ нишЪ гипсовая пещера, а въ ней статуя Богоматери съ младенцемъ и статуя покланяющегося Игнатія Лойолы. На самой площадкЪ, с правой стороны двери, часы съ боемъ, ходъ которыхъ дЪйствуетъ одним заводомъ съ часами Refectorium'а, т.е. столовой, а съ лЪвой стороны ртутный барометръ. И часы и барометръ вдЪланы въ полированные жёлтые деревянные футляры. Въ самой залЪ расположены по противоположной входу стЪнЪ и между окнами 21 большой шкафъ, тёмного дерева, хорошей работы съ бюстами и вазами и различными украшеніями, подъ окнами шесть малых шкафовъ такой же мастерской работы, на стЪнЪ помЪщались два портрета, а по срединЪ помЪщались 9 столовъ по 1 ½ сажени длиною и 5 стульевъ обитых кожею".

У 1835г. А. Марэль яшчэ бачыў у музеі каля 140 фізічных прыбораў, што былі размешчаны ў 10 шафах. Адны з іх былі зроблены за мяжой, іншыя – у майстэрнях езуіцкага калегіюма. У двух фізіка-механічных кабінетах музея экспанаваліся электрычныя машыны, электрафор, лейдэнская батарея, галава, якая размаўляла; купідон, які раз'язджаў у калясцы; стары, што ківаў галавой; гандляр, які прадаваў тавар у лаўцы, металічнае ўвагнутае люстэрка, у якім чалавек бачыў сябе стаячым на званіцы базыліянскага кляштара; паліспат; мадэлі машын, што забіваюць палі; узоры муроўкі цагляных сцен і г.д. Там жа экспанаваліся: тэлескоп (2,5 м вышыні), тры рэфлекторных тэлескопы, барометры, глобусы неба і зямлі, астранамічныя компасы і г.д. А.Марэль пра насычэнне астранамічнага кабінета піша так: " Одинъ телескопъ референтора 8 фут. длины и 30 линий въ діаметрЪ издЪліе Доллонда, три рефлекторныхъ телескопа, барометры Доллонда на треножникЪ, теодолиты, экваторіалы, секстанты квадранты, трое астрономических весовъ, глобусы небесный и земной по 1 1/2 фута въ діаметрЪ работы Адамса".

У мінералагічным кабінеце знаходзіліся ўзоры каштоўных камянёў (2 алмазы, 6 рубінаў, 20 ізумрудаў, 5 сапфіраў, больш за 100 штук цыркона, 40 кавалкаў граната, 24 тапазы, 20 аметыстаў), горных парод, металаў, мамантавай косці, акамянелых рыб і раслін. У экспазіцыі музея знаходзіліся вырабы з агатаў, рубінаў, халцэдону (ручкі, кубкі, табакеркі, спадачкі, пячаткі), каралаў, бурштыну (статуэткі, табакеркі), перламутру, слановай косці (партрэт імператрыцы Кацярыны II у сярэбранай аправе, яйка, у якім месціліся мініяцюрныя шашкі, шахматы і кеглі). А.Марэль узгадвае вялікую калекцыю старажытных манет у 7 шуфлядках, каменную сякеру, кітайскіх бронзавых драконаў, турэцкую медную стрэльбу з перламутрам і г.д. Раслінны свет (ці флора) быў прадстаўлены ўзорамі дошак з розных парод дрэў (387 узораў), выкапнёвых масел (57 шклянак), гербарыяў розных раслін (518 узораў).

Музей меў хімічную лабараторыю, абсталяваную ўсім неабходным для правядзення доследаў, расплаўлення і ачышчэння рэчываў.

У карціннай галерэі знаходзіліся партрэты, пісаныя алеем, тушшу, алоўкам. З іх можна выдзеліць каралеўскія, Марціна Лютэра, Кальвіна, Аляксандра І і іншыя. Усе карціны былі ў шыкоўных рамах. Некаторыя мелі вялізныя памеры. Былі карціны старадаўняга паходжання, пісаныя на дрэве (у асноўным – пейзажы). Што тычылася копій, то гэта былі копіі з Рафаэля, Цыцыяна, Рубенса і г.д. Акрамя мастака Нядзвецкага копіі пісаў яшчэ і Малахоўскі (абодва былі выхаванцамі езуітаў). Вядомы даследчык мастацтва Б. Брэжга піша, што ў галерэі было шмат малюнкаў, зробленых Габрыэлам Грубэрам, а пры выхадзе з галерэі можна было убачыць тры драўляныя манекены, апранутыя ў латы і кальчугі. Тут жа экспанаваліся карабіны і башкірскі лук са стрэламі. Польская даследчыца гісторыі езуіцкіх тэатраў Ірэна Кадульская ў сваім артыкуле пра полацкіх езуітах узгадвае, што ў карціннай галерэі былі палотны І. Дарацьега, С. Розы з Вероны і 42 абразы варшаўскага мастака С. Чаховіча, які працаваў у Полацку 2 гады ( з 1770 г.) і пакінуў тут свае работы. Паводле Т. Бліновай: "В галерее размещались редчайшие шедевры, могущие служить украшением любого европейского музея: четыре мозаичные картины, янтарные вещи, часть из которых была выполнена на высочайшем художественном уровне, четыре пальмовых листа с малабарским письмом, а также свыше 4000 гипсовых оттисков всевозможных медалей...". А.Марэль узгадвае: "Картинная галлерея состояла изъ 67 нумеровъ. Обращала на себя вниманіе коллекція графированных чертежей и рисунковъ въ числЪ 2091. Изъ нихъ по архитектурЪ 484. Потомъ три тетради съ чертежами по военной архитектурЪ, по механикЪ и по чертежной анатоміи...".

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

